Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

22 – 28 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 10000 РУБЛЁЎ
№4 (196)

АДНА ЗЯМЛЯ

МІНСК

## БАЖ набірае сіл

У мінулую суботу ў сталіцы прайшоў трэці спраздачны з'езд Беларускай асацыяцыі журналістаў. Работу праўлення і рады БАЖ удзельнікі прызналі станоўчай.

На з'ездзе, у прыватнасці, адзначана, што ўзмацняецца эканамічны ціск на недзяржаўную прэсу. Што не стала, на шчасце, прадметам, вакол якога засярodзілі б сваю ўвагу ўдзельнікі.

Гаворка ішла пра адукацыйныя праграмы, работу з рэгіянальнымі арганізацыямі. Колькасць апошніх, дарэчы, пасля другога з'езда вырасла з 5 да 16; год таму амаль не было членаў БАЖа ў раённых цэнтрах – цяпер яны ёсць больш як у 20 райцэнтрах. Агульная колькасць сяброў асацыяцыі за год амаль падвоілася і складае 570 чалавек, якія прадстаўляюць больш за 100 выданняў краіны.

Удзельнікі з'езда не пайшлі па шляху дыскусій, прапанаваным **Аляксандрам Фядутам**, аднак і не згадзіліся з тым, што прэса павінна кансалідавацца вакол нейкай партыйнай ці палітычнай ідэі, на што паказаваў **Юрый Хадыка**.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Канкурэнтаздольная макарона

У хуткім часе з цэха фірмы "Дарвес" штодня будзе выходзіць не восем, як раней, а дзесяць тон разнастайных макаронных вырабаў. Кіраўнік канцэрна "Праінтэкс–ЛТД" **Уладзімір Мірута** прыняў рашэнне пашырыць вытворчасць, таму тут стварылі дадаткова яшчэ дзесяць працоўных месцаў, на якія прыйдуць беспрацоўныя жанчыны па накіраванні цэнтра занятасці.

Для гэтых мэтаў Гродзенскі аблвыканком аказаў фірме "Дарвес" фінансавую дапамогу ў памеры 1,2 мільярда рублёў са сродкаў Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці.

Смаргонская макарона канкурэнтаздольная з вядомай барысаўскай, аднак каштуе яна ў магазінах менш – усяго 84 тысячы рублёў за кілаграм.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## "Заложнікі вытворчасці"

У кабінетах медыкаў паліклінікі завода "Спадарожнік" няма цяпла. Урачы сцвярджаюць, што "батарэі, нібы лёд".

Рабочыя прадпрыемства (кацельня адна на ўсіх) звыклыя да холаду і цемры. Рэжым эканоміі на заводзе – норма. Сёлета прыйшлося пакутаваць і паслядоўнікам Гіпакрата.

– У мінулым ацяпляльным сезоне батарэі былі летнія, – з настальгіяй прыгадваюць медыкі.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Суддзі пад аховай

Некаторы час таму ў памяшканні раённага суда з'явіўся міліцэйскі пост. Круглыя суткі ахову памяшкання, а таксама, трэба лічыць, і судовых работнікаў нясуць міліцыянеры з раённага аддзялення "Ахова".

Суддзі цяпер могуць працаваць больш спакойна.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Не толькі кароў раздойваць

Райвыканком прыняў рашэнне аб сустрэчным продажы камбікармоў малаказдатчыкам з разліку паўкілаграма за літр малака. Ён даручыў ААТ "Смаргонскі камбікормавы завод" атаварваць насельніцтва па месцы жыхарства камбікармамі стандартнай якасці.

Аплату будзе рабіць ААТ "Смаргонскія малочныя прадукты", які перавядзе на рахунак вытворцаў камбікармоў грошы за вытворчасць кармасумесяў і іх дастаўку, згодна з заключанымі дагаворамі кантрактацыі. Неабходныя сумы будуць выдзяляцца з прыбытку завода.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Ветэраны дбаюць пра беларушчыну

Прайшло чарговае пасяджэнне рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання "Ветэран". Ветэраны абмеркавалі праблему падпіскі на беларускамоўныя выданні.

Дарэчы, на сёння ў Маладзечне расце доля беларускамоўнай прэсы, на якую падпісваюцца гараджане. Тым не менш, на пасяджэнні гаварылася аб яшчэ большай актывізацыі ў падпісцы на "Літаратуру і мастацтва", "Навіны", "Нашу Ніву", "Наша слова", "Звязду", "Чырвоную змену", "Полымя", "Рэгіянальную газету".

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Яшчэ адзін герб?

18 студзеня ў гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя Багдановіча адкрылася выстаўка эскізаў герба горада Маладзечна. На ёй прадстаўлена каля 50 работ прафесійных мастакоў і жыхароў горада.

Выстаўка будзе працаваць да 29 студзеня. Усе жадаючыя маюць магчымасць наведаць яе і выказаць свае меркаванні наконт прадстаўленых работ.

*Людміла ЦАР.*

НАШЫ З ПАПАМ РЫМСКІМ

# Астраўчанку блаславіў папа Рымскі



*На развітанне папа Рымскі уручыў Святлане Дуброўскай ружанец.*

ФОТА ЗРОБЛЕНА АСАБІСТЫМ ФАТОГРАФАЯ ПАПЫ ЯНА ПАЎЛА II.

***АСТРАВЕЦ. 11–класніца СШ №2 Святлана Дуброўская ў складзе гродзенскай дэлегацыі наведала Італію, дзе праходзіла спатканне каталіцкай моладзі з усёй Еўропы. На сустрэчу прыехалі каля 80 тысяч чалавек.***

Хаця сустрэча праходзіла ў Мілане, беларусы пабывалі ў Венецыі, Рыме і Ватыкане. Арганізатары наладзілі экскурсіі, дзе знаёмілі з помнікамі гісторыі і культуры, знакамітымі венецыянскімі каналамі.

Гродзенская моладзь жыла ў кватэрах італьянцаў. Святлана гаворыць, што тамтэйшае жыццё амаль нічым не адрозніваюцца ад нашага, хіба толькі больш высокім ўзроўнем.

Апагеем паездкі стала спатканне з папам Рымскім. Аўдыенцыя адбылася ў памяшканні ватыканскай бібліятэкі. Перш, чым туды патрапіць, давялося прайсці праз пільны кантроль папскай гвардыі. Спатканне з папам Рымскім доўжылася хвілін 15–20. На развітанне папа кожнага блаславіў і ўручыў ружанец.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



МЯСЦОВАЯ УЛАДА

## Намеснікі без пасад

ВІЛЕЙКА. Аб'яднанне выканаўчых структур зацягнулася. Ды і змена прапіскі розных службаў райвыканкома, пераезд на новыя кватэры справа не аднаго тыдня. Прыкладам, былы гарадскі аддзел адукацыі наўрад ці мэтазгодна чапаць (па плане ён мусіць пераехаць да раённых калег на Вадап'янава, 24), пакуль бухгалтэрыя не пералічыць зарплату настаўнікам з улікам павелічэння мінімалкі.

Новы кіраўнік вобласці крыху сапсаваў настрой мясцовай уладзе. У штаце аб'яднанага выканкома планаваліся чатыры пасады намеснікаў. Зацвердзілі тры. Намеснікі старшыні гарвыканкома **Пятра Юдо** (які, дарэчы, сам стаў намеснікам) засталіся пакуль без пасад. З імі – **Васілём Валадкевічам і Уладзімірам Глушковым** – пакуль не вырашана. Быццам бы "прабіваюць" для аднаго з іх у вобласці пасаду намесніка старшыні райвыканкома па інфармацыі. Прозвішча другога звязваюць з пасадай дырэктара нафтабазы. Але канкрэтыкі пакуль няма.

Не спяшаюцца прызначаць і загадчыкаў аддзелаў райвыканкома. Стала вядома, што плануецца пакінуць толькі двух гарадскіх загадчыкаў: аддзела адукацыі **Яўгена Кулінковіча і культуры Хрысціну Шымакоўскую**. Натуральна, што старшыня **Іван Шпітоўскі** ставіць на тых, з кім працаваў, каго ведае ў рабоце.

*Заканчэнне на 3–й стар.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ У ВІЛЕЙСКІХ КАБІНЕТАХ

# Было б што траціць...

**КАЛІ Б ВЫ МЕЛІ ПРАВА РАСПАРАДЖАЦЦА ГАРАДСКІМ БЮДЖЭТАМ, ШТО Б ЗРАБІЛІ?**



***Мікалай БАЁЎ, загадчык аддзела па спорту райвыканкома:***

— У першую чаргу — басейн. У школах займаюцца больш пяці тысяч вучняў і басейн бы «бурліў ад зары да зары». Яшчэ трэба скончыць рамонт даха спартзалы, адрамантаваць гарадскі стадыён. Хацелася б бачыць добрыя дарогі.



***Людміла КАЗЛОВА, кіраўнік аддзялення Аграпрамбанка:***

— Добраўпарадкаванне горада — самае асноўнае, дарогі абы-якія, але што хочаш прапануй — усё нельга выканаць. Усе патрэбы задавальняюцца з перавыкананнем даходнай часткі бюджэту, якой няма.



***Уладзімір МІСЮЛЬ, начальнік раённага вузла электрасувязі:***

— Каб правільна патраціць бюджэт, трэба вывучыць праблемы, а іх вельмі шмат. Трэба, каб прадпрыемствы запрацавалі, былі паступленні ў бюджэт. Бюджэт бедны, і мы бедныя. Было б што траціць, а куды — знойдзецца. Праблем — мора.



***Вольга ПЕТРЫКЕВІЧ, начальнік 4 гарадскога аддзялення сувязі:***

— На лячэнне трэба будуць грошы, на паляпшэнне і аднаўленне жылога фонду, больш культурных мерапрыемстваў для сталых людзей.



***Генадзь НАЗАРАЎ, дырэктар Вілейскага цэнтра прадпрымальніцтва:***

— Стварыць мінікацельні на любым паліве і электрычнасці, каб забяспечыць цяплом горад у будучым, добраўпарадкаваць гарадскі стадыён, завершыць будаўніцтва басейна.



***Ігар ЛУПІНОСАЎ, загадчык магазіна «Гаспадарчыя дробязі»:***

— Зрабіў бы цяпло ў кватэрах, школах, садках. Звярнуў бы ўвагу на дарогі, асабліва ў Халапах, ля запраўкі. ГВА ЖКГ заўсёды патрэбныя грошы на добраўпарадкаванне горада.

ФОТААПЫТАННЕ П7А7ПАРАЦЫ.

АПАНТАНЫЯ

# Што спяваюць на Вілейшчыне, тое па краіне ў школах вывучаюць

***Міністэрства адукацыі аддрукавала метадычны дапаможнік па музыцы. Аўтар дапаможніка – вілейчанка Зінаіда Крупская. Першы тыраж у 800 экземпляраў разышоўся па рэспубліцы імгненна. Але гэта толькі адзін з напрамкаў практычнага выкарыстання мясцовага фальклору З. Крупскай.***



*Зінаіда Крупская з выхаванцамі Наташай Жыжэмскай і Раманам Каласко.*

ФОТА АЎТАРА.

Яна паспявае ўсюды: выкладае музыку і рытміку ў спецшколе–інтэрнаце, там жа кіруе ўзорным фальклорным калектывам "Віякі", стварыла фальклорны калектыў пры пачатковай школе, у СШ №3 разам з дарослымі і дзецьмі рыхтуе сцэнічны абрад "Вяселле", з'яўляецца лідэрам сярод мясцовых паэтаў.

– Усё жыццё іграю хрэсьбіны, вяселлі, – гаворыць Зінаіда, – знаёмыя іншы раз пытаюцца: як ты там сярод п'яніц? А людзі, як разняволяцца, такі фальклорны матэрыял даюць! Не сорамна мне і да бабулек падыходзіць, пытацца. Так і напаўняецца скарбонка вілейскага фальклору.

Рытміка для дзяцей спецшколы з парушэннямі мовы – асноўнае лякарства. Заняткі выпраўляюць каардынацыю, развіваюць дзіця. Кожны настаўнік музычнай рытмікі ў такіх школах выкарыстоўвае "сваю" праграму. Агульнай не было. Зінаіда Крупская на мясцовым фальклоры распрацавала ўласную. Мінскія чыноўнікі адразу за яе ўхапіліся.

– "Першачку" даю калыханачку, якую, магчыма, яму маці спявала, – расказвае аўтар. – Вучу рабіць крокі пад музыку. І гэтую мелодыю ён мусіць сам сабе напяваць. Выпускнікі, дзевяцікласнікі на ўсю моц шпараць "Кадрылю", "Лявоніху", "Польку"... Першакласнік, бывае, слова "маці" не скажа, не атрымліваецца. А пасля дзевяцігадовага навучання на чыстай беларускай мове аддзячыць. Ды экспромтам і літаратурна.

Дапамагала ў напісанні дапаможніка калега **Ірына Валынец**. Жанчыны сцвярджаюць, што выкарысталі ўсяго чацвёртую частку ад назбіранага фальклору. Хаця на Вілейшчыне шмат чаго было адметнага. Прыкладам, віталіся так: "Вітаю цябе з хлебам". Ужо значна пазней прыйшло: "Добры дзень у хату". Арнамент касцюма вілейчаніна таксама меў свае асаблівасці: ромбы і квадраты. Першыя сімвалізавалі зямлю. Другія – жыццё на гэтай зямлі.

– Акрамя напісання дапаможніка і работы па ім, падрыхтоўка абраду вяселля – таксама аднаўленне былога на практыцы?

– Я аднавіла абрад, які праходзіў вілейчане гадоў 200 таму. Спачатку хросныя жаніха прыходзілі ў агледзіны да бацькоў нявесты. Хросны бацька адразу двор агледаў, хросная – што ў куфры. Запрошаныя на вяселле неслі з сабою ежу, самаробны падарунак. Гаспадар толькі сімвалічна ставіў на стол. Ды і само вяселле пачыналася з дарэння. А за сталом кожнае слова мела сэнс, было да месца. Гэта не цяперашнія п'яныя здравіцы.

– Былі на Вілейшчыне месцы, што славіліся жаніхамі ці нявестамі?

– Славіліся даўгінаўскія дзяўчаты, ільянскія хлопцы. Знаёміліся, да прыкладу, на фэстах у вёсцы Бараўцы. Там добра расла цыбуля, з'язджаліся яе купляць адусюль. А дзе фэст, там і забаўлянкі. Са Смаргоншчыны прывозілі лялечны тэатр. Дарэчы, хлопцы ўступалі ў шлюб не маладзейшымі за 25 гадоў. А дзяўчаты – у 16–17.

– Практычнае ўвасабленне фальклору – гэта і "хрэсны" ход вучняў пачатковай школы?

– Вучні калядавалі дзвюма групамі. Хадзілі па мікраўёне "Зеніт", заходзілі ў сем'і. Былі ў шэфаў на "Буддэталях", у райвыканкоме. Усё рабілі, як калісьці іх продкі. У райвыканкоме старыя, што прыйшлі ў аддзел сацзабеспячэння, плакалі. На заводзе спынілі вытворчасць.

– Дзяцей частавалі? А іх бацькі далі дазвол на калядаванне?

– Частавалі ад душы цукеркамі, пірагамі. Бацькі былі прыемна здзіўленыя. У пачатковай школе шмат дзяцей, якія не прайшлі тэсты ў гімназію, моцныя, па мясцовых мерках, школы. Дзіця, якое сядзела моўчкі перад камісіяй гімназіі, цяпер стала сапраўдным артыстам. Ці могуць бацькі не радавацца таленту дачкі або сына?

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

КУЛЬТУРА

## Успомнім Трохалеву і Дзяругу

СМАРГОНЬ. Па ўсёй Еўропе і нават за акіянам разыходзіліся ў свой час прыгожыя карціны самадзейнай мастачкі са **Ліліі Трохалевай**. Нямала іх у музеях і прыватных калекцыях. На жаль, мастачка пайшла з жыцця.

Няма і заслужанага дзеяча культуры рэспублікі **Аляксандра Дзяругі**, стваральніка і першага кіраўніка народнага цымбальнага аркестра. Але памяць пра іх будзе жыць.

Раённы выканаўчы камітэт заснаваў пераходныя прызы імя Л. Трохалевай і А. Дзяругі, якімі будуць узнагароджацца самадзейныя мастацкія калектывы раёна, якія дасягнуць найлепшых поспехаў у выхаванні эстэтычнага густу насельніцтва, развіцці мастацкай самадзейнасці, змястоўнай і мэтанакіраванай працы па адраджэнні і захаванні беларускай народнай культуры, у прапагандзе народных рамёстваў.

*Павел МАКЛЮК.*

## Родны край, ты на свеце адзіны

СМАРГОНЬ. Пад такім дэвізам у лютым–сакавіку пройдзе агляд–конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці раёна па ўсіх відах і жанрах народнага мастацтва. Арганізацыйны камітэт узначаліў намеснік старшыні райвыканкома **Аляксей Апановіч**.

Агляд–конкурс арганізуецца з мэтай шырокага далучэння працоўных, дзяцей і моладзі, ветэранаў да заняткаў народным мастацтвам, арганізацыі змястоўнага адпачынку, узбагачэння рэпертуару аматарскіх калектываў творамі высокага кшталту, лепшымі ўзорамі беларускай народнай творчасці.

*Павел МАКЛЮК.*

## “Калядныя сустрэчы”

МАЛАДЗЕЧНА. 12 студзеня ў актавай зале ПТВ–21 адбыўся святочны канцэрт "Калядныя сустрэчы", у праграме якога ўзялі ўдзел лепшыя эстрадныя калектывы і выканаўцы горада і раёна.

"Калядныя сустрэчы" праводзяцца ў горадзе не першы год, яны ўжо сталі традыцыйнымі.

Асаблівасцю гэтай святочнай праграмы было правядзенне ў яе рамках ушанавання работнікаў гарадскіх і раённых фінансавых службаў з нагоды іх прафесійнага свята.

*Людміла ЦАР.*

ЧОРНЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# Апошняя разгрузка “фабрыкі смерці”

*Мне ёсць што ў вайны спытаць:*
*Да гэтых дзён шукаю я магілу –*
*Сястры маёй зямны грудок пахілы,*
*Каб кветкі ёй сабраныя аддаць.*
**І. Лашутка, 1983 г.**

## Аблава на Ільяншчыне

Святочны сонечны Міколін дзень 1944 года ў Баярах нечакана напоўніўся крыкамі трывогі і адчаю:

– Людзі, ратуйцеся! Немцы абкружаюць!

Фашысты, якія бесперашкодна ўварваліся ў вёску, перавярнулі ўсё ўверх дном: шукалі партызанаў, якіх, разумеецца, тут не было. За адным разам збіралі "баявыя трафеі": яйка, млека, шпэк (сала), шнапс (самагонку). Затым прыхапілі з сабой некалькі дзяўчат, бо хлопцы даўно партызанілі, і зніклі. У ліку захопленых была і семнаццацігадовая **Лёля Лашутка**. Як можна было зразумець, нічога страшнага: бяруць дзяўчат на працу ў Ілью.

У той жа дзень, 22 мая 1944 года, такія ж аблавы фашысты ўчынілі і ў Кавалях, і ў Карытніцы, і Судніках Ільянскага сельсавета. Схапілі каля дзесяці дзяўчат.

Хутка з Ільі яны зніклі. Бясследна...

Значна пазней чыста выпадкова даведаліся родныя пра гаротны лёс сваіх дзяўчат, захопленых у палон: яны за мурамі вілейскай турмы.

Лёлін бацька, Язэп Лашутка, адразу ж кінуўся ў турэмную прыёмную. Дзяжурны паліцай даў яму зразумець, што дзяўчатамі гітлераўцы выканалі план па захопу партызанаў.

– Але калі прыпрэш чаго... Ну, сам ведаеш, – сказаў паліцай у заканчэнне, – тады іншая справа... Можа, і адпусцяць...

Відаць, лягчэй штосьці вырваць з воўчых зубоў, чым беззаконную ахвяру з фашысцкіх лапаў. У апошнюю пятніцу чэрвеня Язэпу Мікітавічу яшчэ нешта злосна і мітусліва раўлі. А назаўтра паліцай нават размаўляць не стаў: з ім: узялі ды выштурхнулі з прыёмнай турмы вон...

## Над Макаўем – чорны дым

У тую самую апошнюю пятніцу чэрвеня 1944 года сям'я Пашкевічаў зранку, як заўсёды, была на нагах. Гаспадыня, Тацяна Паўлаўна, завіхалася ля печы, пачала пячы бліны.

Раптам насупраць іх хаты, ля тока, прытармазіў вялікі грузавік, крыты брызентам.

Фашысты сталі заганяць у ток прывезеных у кузаве людзей. Праз хвілін пяць пад'ехаў другі такі грузавік, затым – трэці...

І тут пачалося такое, ад чаго нармальны чалавек можа навват страціць прытомнасць.

Расказвае дачка Пашкевічаў **Галіна Іванаўна Кабылінская**:

– Мы жылі тады ў Макаўі ля самай дарогі Вілейка–Смаргонь. Наша хата, хлеў і іншыя пабудовы былі справа ад дарогі, а ток і пуня – злева. Фашысты біткам набілі і ток, і пуню прывезенымі вязнямі Вілейскай турмы. І пачалі іх расстрэльваць... Мы кінуліся ў лес, у бок Порсы, "Пад капцы"... У нашым таку грымелі стрэлы і выбухі... Праз нейкі час над нашай сядзібай узняўся густы чорны дым...

Пачуўшы гэты вар'яцкі кашмар пабоішча, аднавяскоўцы таксама зніклі ў лесе. Пагэтаму сведкаў тых крывавых падзеяў не было.

Вярнуліся дадому праз суткі, у нядзелю, калі даведаліся, што Вілейка вызвалена ад фашыстаў. Жудасная карціна паўстала перад вачыма: усе пабудовы Пашкевічаў былі спалены. На вогнішчы – горы абгарэлых трупаў. Адзін быў нават укінуты ў печ. За метраў дзесяць ад былога току ляжаў абгарэлы чалавек. Відаць, яму ўсё ж удалося вырвацца з ахопленага полымем току, але тут яго дабілі фашысты...

Пад'ехалі чырвонаармейцы, дапамаглі выкапаць тры магілы, у якіх і пахавалі ахвяр гэтай зверскай расправы – звыш трохсот вязняў вілейскай турмы.

Успамінае **Лілія Васільеўна Валынец (Сыракваш)**, былы натарыус Вілейкі:

– Пасля крывавай вакханаліі над жыхарамі Ілішчавіч ("РГ" № 4 за 1998 год паведамляла аб гэтым – аўтар), калі фашысцкімі людаедамі быў расстраляны і мой бацька, мы хаваліся ў лесе. Да нас тады прыбег мужчына, які цудам вырваўся з ахопленага полымем тока. Адзенне на ім згарэла датла. Быў ён увесь у апёках. На жаль, далейшага лёсу яго я не ведаю...

Магчыма, нехта ўсё ж ведае пра лёс гэтага адзінага чалавека, які цудам тады выслізнуў з абдымкаў вогненнай смерці?

## Куцькі: першая субота ліпеня 1944-га

У хату **Уладзіміра Альфера** зайшоў паліцай. Яшчэ з парога сурова загадаў:

– З гэтай палавіны хаты – усім! – перайсці ў тую, што ад дарогі! Сядзець ціха ўсім, не варушыцца. На двор – ні нагой! Вокны завесіць і не глядзець! За малейшае парушэнне загаду – страляем! А то і спалім усіх!

Бразнуў дзвярыма так, што аж вокны забрынкалі. Такі загад атрымалі ўсе жыхары Куцек. Але знайшліся і цікаўныя, і смелыя, якія падглядалі...

Спачатку паліцаі агледзелі лазню ля дарогі Вілейка–Маладзечна. Штосьці забракавалі ў ёй. Затым затрымаліся ля другой, што стаяла далей ад дарогі, ля возера. Абклалі яе на які метр дровамі, падагналі дзве "душагубкі". Загналі прывезеных людзей у лазню, забілі дзверы дошкамі...

Якраз у гэты ранні час вяртаўся з возера адзін куцькаўскі рыбак. Паліцаі за ягоды... сталі цягнуць у лазню. Чуць удалося таму адкупіцца ад смерці: аддаў рыбу немцу, які быў тут за старшага.

Лазню, відаць, аблілі бензінам, бо яна ўспыхнула імгненна. Раздаўся жудасны крык многіх дзесяткаў галасоў. Толькі адзін нейкі хлопец вырваўся з–пад лазні, якому, мусіць удалося выцягнуць камень з падмурка. Ён пабег міма возера ў бок Віліі на луг. Раздалася аўтаматная чарга, хлопец упаў...

– А можа, прыкінуўся забітым. Мо, жывым застанецца, – спадзяваўся Сяргей Альфер, седзячы на гарышчы сваёй хаты. Ды дзе там, падышлі паліцаі ды за ногі зацягнулі хлопца ў полымя. А затым да вечара варочалі бусакамі трупы, каб яны згарэлі ўшчэнт. І засталіся ад іх толькі драбнюткія аскалонкі костачак, па якіх нельга было нават падлічыць колькасць ахвяраў. Мяркуюць, што прывезена і знішчана было тады не менш за 80 чалавек.

## Такое не забываецца

**Ніна Васільеўна Альфер** успамінае:

– Калі гітлераўцы ўцяклі з Вілейкі, мы пайшлі ў турму. За яе мурам, з боку вуліцы Дзяржынскага, жаўцела вялізная яма. Уздоўж усёй сцяны і шырынёй метраў трыццаць. У ёй – тысячы трупаў. Тысячы!!! Усе голыя, відаць, каб нельга было пазнаць па адзенні. Перад вачыма да сёння жанчына: маладая, з доўгімі валасамі, а на грудзях у яе – маленькае дзіцятка... Зверху накідана была вапна, якая месцамі параз'ядала трупы. У турме – горы трупаў! Запомніўся пакой без вокнаў: у ім падлога, сцены, столь – усё ў крыві. Ля сцяны стаялі бочкі з крывёю. Хіба такое забываецца?

Пайшоў у Вілейку ў турму і Лёлін бацька **Язэп Лашутка**. Па тэрыторыі хадзілі заплаканыя людзі, якія шукалі сваіх загінуўшых.

– А мой ты чалавеча! – звярнулася да яго нейкая жанчына. – Іх, вязняў, вывозілі ў пятніцу ў Макаўе, а ў суботу – у Куцькі. Там спалілі ўсіх, гэта звяр'ё чортава.

Балюча саданула, нібы нажом, у сэрца Язэпу Мікітавічу страшная здагадка: у суботу, 1 ліпеня 1944 года, у Куцьках загінула у ліку іншых і яго дачушка Лёля. Гэта ёй малодшы брат Іван Лашутка прысвяціў свой верш, які прыведзены ў якасці эпіграфа.

У пачварную фабрыку смерці ператварылі гітлераўцы вілейскую турму. "Галоўны фабрыкант", былы начальнік турмы, не пазбегнуў заканамернага пакарання. На судзе ён прызнаўся, што расстрэльная каманда турмы знішчыла на Вілейшчыне да 7 тысяч чалавек.

Цяпер у Макаўі і Куцьках ганаровай варце стаяць ахоўнікі вечнасці – помнікі ахвярам, якія былі так па–зверску знішчаны катамі–душагубамі, калі ў іх пад нагамі гарэла беларуская зямля. Нездарма ж кажуць, што ранены звер, які адчувае сваю непазбежную пагібель, самы страшны і небяспечны.

Будзем жа схіляць свае галовы ў маўклівай пашане да загінуўшых, і яны будуць вечна жыць у памяці народнай.

Сапраўды, хіба мы маем права такое забыць?

*Аляксандр НАРКЕВІЧ.*

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ПУБЛІКАЦЫІ

# Анастасію Войніч пахавалі

***МАЛАДЗЕЧНА. Два тыдні таму «РГ» пісала, што труп жыхаркі горада Анастасіі Войніч год з 5–10 праляжаў у аднапакаёўцы ў цэнтры не самага малога райцэнтра. За гэты час цела муміфікавалася («Рэгіянальная газета» №2). Пры жыцці пра бабульку не ўспомніў ніхто.***

Анастасію Войніч пахавалі. У апошні шлях на могілках у Лазаўцы яе праводзілі работнікі камунальнай службы – метр трыццаць у глыбіню, без добрых слоў і памінальнай чаркі. "Провады" для дзяржавы няшмат і каштавалі – труна ды крыж, ўсё па сабекошце. Ніхто не паклапаціўся прынесці ў морг нейкае адзенне старой, каб хаця проста пакласці ў труну. Былі ж у Войніч сябры, знаёмыя.

Некаторыя жыхары з бабулінага дома сцвярджалі, што Войніч пакутавала на псіхічнае захворванне. Мы звярнуліся ў дыспансер. Жанчына ніколі там на ўліку не стаяла. Была звычайная. Некалі паважаная, любімая, адзіная.

Войніч ляжыць у сектары 56, трэцім радзе. На крыжы маслянай фарбай ад рукі выведзена прозвішча. Гэты сектар для такіх, як і яна, – усімі забытых. Хлопцы, што капаюць дол, запэўнілі:

– Магілка захаваецца, перыядычна падсыпаем зямлю. А крыж калі згніе – не бяда. Па дакументах можна лёгка аднавіць прозвішча памерлага.

Настаяцель Свята–Пакроўскай царквы айцец **Аляксандр** дазволіў паставіць нябожчыцы свечачку. А на пытанне, ці богаўгодная душа з муміфікаванага цела, адказаў:

– Гэта толькі богу і вядома.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*






*Баба Стася знайшла свой апошні прытулак у сектары 56 гарадскіх могілак у Лазаўцы, што пры гасцінцы на Вілейку.*



*Работа магільшчыкаў скончаная.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 13.01 | 20.01 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 340 | **310** |
| Кілбаса вэндж. | 1 кг | 440 | **399** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | – | – |
| Селядзец | 1 кг | 290 | **299** |
| Рыс | 1 кг | 150 | **150** |
| Цукар | 1 кг | 85–89 | **85-90** |
| Грэчка | 1 кг | 117 | **120** |
| Алей | 1 л | 280 | **255–320** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 85 | **78–95** |
| Маянэз | 250 г | 65–80 | **65-80** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 340 | **350** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 100 | **100** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 85 | **85** |
| Лімоны | 1кг | 350 | **350** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 120–180 | **130-180** |
| Масла | 1 кг | 300 | **300** |
| Тварог | 1 кг | 80 | **75–90** |
| Малако | 1,5 л | 40 | **40** |
| Бульба | 1 вядро | 130–150 | **150** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 130 | **120** |

ГАНДАЛЬ

# У смаргонцаў праблемы. Цукровыя

СМАРГОНЬ. Нядаўна былі ўведзеныя рашэннем Смаргонскага райвыканкома нормы продажу цукру. Цяпер кожны жыхар можа купіць толькі адзін кілаграм па спісах, якія ёсць у крамах, і толькі адзін раз у квартал. Такія нормы, натуральна, не задавальняюць смаргонцаў, бо, як ні старайся, але цукру не хопіць.

Выхад многія смаргонцы знайшлі ў Маладзечне, дзе да нядаўняга часу цукар можна было набыць амаль без праблем ва "Універмагу" і гастраноме "Юбілейны". Цяпер і там ён адсутнічае. Ці не вывезлі яго смаргонцы?

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

# ...без пасад

***Пачатак на 1–й стар.***

На будынках гарадскога і раённага выканкомаў вісяць пакуль старыя шыльды. Ды і ўнутры нагляднасць захавалася. Усе працуюць на сваіх ранейшых рабочых месцах.

Чыноўнікі гавораць, што раённы галава разам з намеснікамі пераедзе ў "гарадскі" будынак. А ў "раённым" размесцяцца аддзелы (упраўленне капітальнага будаўніцтва раёна ўжо вызваліла свае кабінеты на III паверсе).

Вядома, што планы па прызначэнні на пасады, засяленні памяшканняў могуць яшчэ не раз змяніцца.

Цікава таксама, як аб'яднанне адлюструецца на вялікай гіпсавай галаве У. Леніна, што стаіць у холе "раёна". Час ідзе, магчыма, варта пазбаўляцца старых сімвалаў? Таксама метадаў і поглядаў.

*Васіль САВІЦКІ.*

СЕКТАР СПОРТУ

*Міні-футбол*

# Заслаўе ды нашая ДЮСШ

МАЛАДЗЕЧНА. На занальны турнір Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе, які мы анансавалі ў мінулым нумары, не даехалі прадстаўнікі Вілейкі і Рудзенска.

Так што шэсць калектываў згулялі ў адзін круг між сабой. Прычым аспрэчвалі толькі адну пуцёўку на "фінал", лёс жа тых, хто заняў другое месца, мусілі вызначыць дадатковыя паказчыкі ў параўнанні з іншымі "зонамі".

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Заслаўе | 5 | 5 0 0 | 40-19 | 15 |
| 2. | ДЮСШ (Мал.) | 5 | 4 0 1 | 34-16 | 12 |
| 3. | Рамас (Мал. р–н) | 5 | 3 0 2 | 36-19 | 9 |
| 4. | Мінскі р–н | 5 | 2 0 3 | 25-30 | 6 |
| 5. | Чэрвень | 5 | 1 0 4 | 31-39 | 3 |
| 6. | Мядзел | 5 | 0 0 5 | 21-64 | 0 |

Найбольш упорная была барацьба паміж камандамі першай тройкі. Беразінцы, якія прадстаўлялі Маладзечанскі раён, з мінімальным лікам саступілі і заслаўчанам (3:4), і землякам-гараджанам (2:3), хлопцам 1981-82 г. н. (трэнер **Андрэй Найдзіч**). Завуч ДЮСШ **Віктар Дзмітрачкоў** сказаў, што юныя футбалісты прыемна здзівілі сваёй упэўненай гульнёй на працягу ўсяго турніра.

Вырашальнай стала сустрэча з прадстаўнікамі Заслаўя, многія з якіх, відаць, маюць досвед выступленняў за тамтэйшы "Дыфор" - гэта адзін з лідэраў міні-футбольнай вышэйшай лігі. Перад матчам адчувалася нервовасць нашых землякоў, аднак яго ход складваўся даволі ўдала. Лік з пенальці адкрыў **Дзяніс Смірноў**, потым двойчы вызначыліся сапернікі, ізноў забівае Смірноў. 2:2. **Сяргей Мандрык** не выкарыстаў тры добрыя магчымасці для ўзяцця варот, але ўрэшце забіў. Затым Смірноў робіць хет-трык – рэалізуе пенальці за парушэнне супраць цёзкі-**Мятліцкага**. 4:2. Застаецца пяць хвілін да заканчэння гульні. Напэўна, хлопцы ранавата пачалі думаць пра перамогу, а трэнеры не прадпрынялі нейкіх мераў, хаця маглі хаця б узяць тайм-аўт. Пад заканчэнне праціўнікі забілі тры галы і выйгралі 5:4.

У іх складзе выдзяляўся **Андрэй Гембальскі**, які стаў лепшым бамбардзірам з 18 галамі. Па 7 разоў забівалі **Павел Савіцкі і Дзяніс Смірноў** (абодва - ДЮСШ), **Ігар Сатуп** (Рамас), **Ігар Асаёнак** (Мінскі раён), **А. Бойка і В. Гіль** (абодва - Мядзел).

Не было скаргаў на судзейства (адваротнае – даволі частая з'ява на многіх турнірах). Упэўнена працавалі маладзечанскія арбітры **Уладзімір Асіпенка, Віктар Дзмітрачкоў, Ігар Крук, Сяргей Ляшчынскі**. Галоўным суддзёй быў старшыня абласной федэрацыі футбола **Георгій Гоман**.

Праходзілі матчы ў спартыўнай зале палітэхнікума (дырэктар **Аляксей Выбарнаў**, загадчык кафедры фізкультуры **Аляксандр Філімончык**), дзе зрабілі ўсё належнае для правядзення турніра.

У аўторак прыйшло паведамленне, што маладзечанскія юнакі дапушчаныя да фіналу, які 29-31 студзеня мусіць прайсці ў Барысаве.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Спартсмен года – Андрэй Станкевіч

ВАЛОЖЫН. Андрэй стаў чэмпіёнам свету па міні–футболе сярод спартсменаў са слабым зрокам. Сам ён з Валожына. 9 класаў скончыў у Маладзечанскай школе–інтэрнаце, там жа – улікова–планавы тэхнікум. Працаваў дома на хлебакамбінаце.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Прафесіяналы і аматары

МАЛАДЗЕЧНА. Зімовы турнір прайшоў у спартзале СШ №12 з 13 па 17 студзеня. Удзельнічалі 18 каманд.

У сваіх групах перамаглі каманда спорткамітэта (будзем калі-нікалі ўжываць і такую назву ўпраўлення па ф/с/т пры гарвыканкоме), "Электрамодуль", "Унікаб" і АВПС-ЗПМ. У такім парадку размеркаваліся іх пазіцыі пасля матчаў у фінальнай чацвёрцы.

За пераможцаў выступалі **Віталь Казяк** (стаў лепшым бамбардзірам), **Сяргей Кабельскі, Дзмітрый Капленка** і (увага!) **Руслан Лукін**. Ён адышоў ад сваёй траўмы і цалкам верагодна, што будзе выступаць за "Маладзечна". У апошнім матчы на варотах быў **Уладзімір Галубко**, які напярэдадні гуляў за ветэранаў. З іншых гульцоў трэба адзначыць капітана "Электрамодуля" **Андрэя Шылу** і варатара "Унікаба" **Юрыя Грачаніка**.

Як заўсёды на падобных гарадскіх турнірах, усё было добра арганізавана.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Міжсезонне*

# ФК "Маладзечна". Навіны

Пасля нарады ў мясцовым гарвыканкоме стала зразумела: ЗЛМК будзе дапамагаць камандзе матэрыяльна, а гарадская і раённая федэрацыі футбола – маральна.

Каманда не будзе ўдзельнічаць у міні–футбольным турніры, які распачнецца 1 лютага ў Наваполацку.

**Мікалай Абрамовіч і Уладзімір Карыцька** цяпер на праглядзе ў мінскім "Тарпеда".

**Сяргей Дзямідчык** усё яшчэ знаходзіцца ў "Нафтане–Дэвоне".

**Аляксандр Лебедзеў** разам з тульскім "Арсеналам" паехаў на зборы на Кіпр.

**Віталь Макрыцкі і Павел Лутовіч** пачалі ўжо трэніравацца ў складзе маладзечанскай каманды.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

ГАРАСКОП 18 – 24 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добры дзень 31. Павялічыцца верагоднасць падманаў, памылак.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Не забывайся пра самакантроль: павялічыцца неўраўнаважанасць.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Важны дзень 31. Будзеш добры і міралюбівы, што адзначаць навакольныя.

**РАК (22.06–23.07)**
Кепскія дні 25–28, важны 30. З асаблівай увагай наладжвай новыя знаёмствы.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Кепскія дні 27–30. Усе справы вырашай самастойна, бяры ініцыятыву ў свае рукі.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Важны дзень 28. У цябе з'явяцца праблемы са здароўем.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кепскі дзень 31, важны 27. Узрасце твая папулярнасць сярод творчай масы прыхільнікаў твайго таленту.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Важны дзень 26. Цябе чакае цікавае жыццё, калі прыкладзеш свае творчыя намаганні да новых праектаў.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добры дзень 25. Добры перыяд для папаўнення ведаў.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Добрыя дні 25–27. Ёсць верагоднасць пападання пад уладу ненадзейных людзей.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 27–29. Добры час для разважанняў пра сэнс жыцця.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добры дзень 30, важны 31. Жыві рэальнымі падзеямі, а не рамантычнымі марамі.

